АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 — 19 ЖНІЎНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№33 (225)

МАЛАДЗЕЧНА

## Міністр наведаў кінатэатр

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак горад наведаў міністр унутраных спраў Беларусі **Юрый Сівакоў**. На сустрэчу з ім у кінатэатр "Радзіма" былі запрошаныя міліцыянеры Маладзечна, Вілейкі, супрацоўнікі міжрайаддзела па арганізаванай злачыннасці і карупцыі. Тэма размовы была нетрадыцыйная: мараль, псіхалогія, стратэгія, ідэалогія супрацоўнікаў міліцыі. Таксама быў паказаны фільм, як метадычнае дапаўненне да дыялогу, пра работу калег з Мінска.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Здалі ўчастак беларуска-літоўскай мяжы

АСТРАВЕЦ. Яшчэ напрыканцы ліпеня мелася адбыцца падзея, звязаная са здачай лініі дзяржаўнай мяжы на беларуска–літоўскім накірунку, якую уладкоўвалі вайскоўцы інжынернай часці са Слуцка. Падзею адклалі на сярэдзіну жніўня.

Да гэтага часу вайскоўцы павінны былі завершыць усе работы па будаўніцтве кантрольна–следавой паласы, якая, па сутнасці, і будзе адзінай перашкодай для парушальнікаў мяжы. На ўзвядзенне сучасных інжынерных перашкод, якімі абсталяваная мяжа на беларуска–польскім накірунку, грошай пакуль няма.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Чыгуначныя войскі здалі Дзяржаўнай прыёмнай камісіі аддэмаркіраваны 15-кіламетровы ўчастак на беларуска-літоўскай мяжы.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, работы на гэтым участку, які ўяўляе сабой забагнаваную, цяжкапраходную мясцовасць, вяліся на працягу палутара гадоў асобным чыгуначным батальёнам механізацыі. На сёння з 650 кіламетраў беларуска-літоўскай мяжы Дзяржаўнай камісіяй было прынята крыху больш за 50 кіламетраў аддэмаркіраванай мяжы.

Ва ўрачыстай цырымоніі здачы ўчастка ўзялі ўдзел старшыня Дзяржкамітэта пагранвойскаў генерал-лейтэнант **Аляксандр Паўлоўскі** і камандуючы Чыгуначнымі войскамі генерал-маёр **Анатоль Сцяпук**.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.*

АСТРАВЕЦ—ВІЛЬНЮС

## Таннее гарэлка

Тое, што беларуская гарэлка карыстаецца вялікім попытам у Літве, ужо даўно ні для каго не сакрэт. І, хутчэй за ўсё, літоўцы купляюць яе не столькі з–за якасці, як з–за нізкага кошту. Здавалася б, попыт павінен быў сказацца і на кошце. Так адбылося, але гарэлка не падаражэла, а наадварот.

Калі яшчэ зімой, правезшы праз мяжу адну бутэльку гарэлкі, можна было мець 10 літаў (прыкладна, крыху больш за 1 мільён рублёў), то цяпер яе прадаюць толькі па 7–8 літаў у Вільнюсе. Што тычыцца літоўскага памежжа, то там за бутэльку могуць даць 6–7 літаў.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## В. Ганчару не дазваляюць

Пашпартна-візавая служба Мінгарвыканкама анулявала дазвольны запіс на выезд за мяжу першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання **Віктара Ганчара**, чыё імя цесна звязана з Маладзечнам. У свой час Віктар Ганчар быў першым намеснікам старшыні гарвыканкома Генадзя Карпенкі (цяпер гэтую пасаду займае Яфім Ідэльчык).

У інтэрв'ю БелаПАН В. Ганчар паведаміў, што гэтай падзеі папярэднічалі неаднаразовыя наведванні ягонай кватэры супрацоўнікамі міліцыі, якія настойліва патрабавалі аддаць ім пашпарт. Пазбаўленне магчымасці выезду за мяжу, паводле слоў В. Ганчара, непасрэдна звязана з узбуджанай у дачыненні да яго вясной бягучага года крымінальнай справай па артыкуле 190 Крымінальнага кодэкса РБ (самавольнае прысваенне звання або ўлады службовай асобы). Пра гэта, паводле ягоных слоў, ёсць прамое ўказанне ў паведамленні пашпартна-візавай службы.

– Наколькі я разумею падаплёку, — сказаў В. Ганчар, — улады вельмі баяцца таго, што цяпер рыхтуюцца мае афіцыйныя візіты ў шэраг краін і, верагодна, разумеючы, што пры наяўнасці візы я змагу з'ехаць з краіны, ... яны робяць усё для таго, каб магчымасці для арганізацыі гэтых візітаў прадухіліць.

Пры гэтым першы віцэ-спікер ВС адзначыў, што яму цяжка прадбачыць тое, «наколькі далёка ўлады зойдуць у сваім дэбілізме». «Можна прагназаваць любы сцэнарый развіцця падзей», — сказаў В.Ганчар.

*Па матэрыяле БелаПАН.*



СВЯТЫ

# Вілейцы — 400

## Ні капейкі не паступіла на святкаванне юбілею ад гараджан

*ВІЛЕЙКА. Да святкавання 400—годдзя горада засталося два тыдні. Заканчэнне жніўня для масавых мерапрыемстваў — найбольш зручны час: і дарослыя, і дзеці вернуцца ў горад з адпачынку.*

– Прадбачу пытанне – колькі будзе каштаваць для Вілейкі і раёна юбілей? – пачаў размову старшыня аргкамітэта па падрыхтоўцы свята, намеснік старшыні райвыканкома **Пётр Юдо**. – Мы адразу адмовіліся ад нейкай пампезнасці і заарганізаванасці. Спонсарамі выступілі нашы мясцовыя прадпрыемствы. Прычым большасць з іх дапамаглі не грашыма, а непасрэдна сваёй працай. Некаторыя жыхары разважаюць прыблізна так: "Навошта гэтыя ўрачыстасці – грошай няма, затое шмат праблем, лета сухое, невядома, які ўраджай атрымаем". Святкаванне юбілею – гэта падзяка віляйчанам за тое, што ў складаны час жывуць і працуюць.

**– Чаму спансіруюць свята толькі прадпрыемствы і арганізацыі? Няхай бы і гараджане ўнеслі нейкі ўклад. Як у той прымаўцы: "... с миру по нитке..". Напрыклад, паставілі б у магазінах скрыні для ахвяраванняў.**



*Намеснік старшыні Вілейскага райвыканкома Пётр Юдо ў руках трымае толькі што аддрукаваныя запрашэнні на святкаванне юбілею горада.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

– Мы разглядалі гэты варыянт. Праз мясцовыя газету, радыё звярнуліся да віляйчан з просьбай матэрыяльна дапамагчы. Адкрылі спецыяльны рахунак у банку. Патлумачылі, на што пойдуць іх грошы. Вынік уражвае – ні капейкі на рахунак не паступіла. Між тым, з апытання насельніцтва можна зразумець, што гараджане чакаюць свята і пойдуць на яго сем'ямі.

**– Ходзяць чуткі, што на "Зеніце" робяць нейкі спецзаказ. Точаць снарады для святочнага салюта?**

– Так, спецзаказ нагадвае снарад. Гэта капсула з медзі дыяметрам 150 міліметраў і 500 міліметраў у даўжыню. У яе пакладуць завяшчанне нашчадкам, нейкія сучасныя рэчы, напрыклад, лыжку, відэлец, аловак. Упісаныя прозвішчы гараджан, якія шмат што зрабілі для развіцця горада. Капсулу замуруюць і павінны ўскрыць толькі праз 100 год. Там жа, на цэнтральнай плошчы, будзе ўстаноўлены памятны знак – валун. Прывезлі яго з Вязыні. Асвячаць і валун, і капсулу прыедзе Філарэт.

*Заканчэнне тэмы на 2—й стар.*

АКЦЫІ

## Санаторый «Зорны» прыняў дзяцей з Югаславіі

*РАДАШКОВІЧЫ. Няпростую задачу давялося вырашаць на пачатку тыдня начальніку санаторыя—прафілакторыя «Зорны» Генадзю Пустаходу. Мінскае гарадское ўпраўленне па аздараўленні і санаторна—курортным лячэнні насельніцтва абавязала яго тэрмінова прыняць на адпачынак больш за 40 чалавек з Югаславіі. З аналагічнай просьбай да яго звярнуўся і Часовы павераны ў справах Беларусі ў СРЮ Уладзімір Чушаў.*

Аўтобус з югаслаўскімі гасцямі ўехаў на тэрыторыю «Зорнага» ў сераду на досвітку. Але работнікі санаторыя яго ўжо чакалі, бо «вялі» яшчэ з тэрыторыі Украіны. 39 дзяцей ад 7 да 17 год у суправаджэнні трох дарослых адразу рассялілі ў наперад падрыхтаваныя пакоі (папярэдне давялося рабіць перасяленне), потым пазнаёмілі са сталовай. Праз колькі часу дзеці ўжо адпачывалі пасля доўгай дарогі.

*Заканчэнне на 2–й стар.*



*Аўтобус з югаслаўскімі дзецьмі заязджае на тэрыторыю санаторыя «Зорны».*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

ЛЕТА

## "Плавающие объекты" на канале

РАДАШКОВІЧЫ. Перад помпавай станцыяй канала Вілейска–Мінскай воднай сістэмы ля пасёлка стаіць сетка, якая "вылоўлівае" бутэлькі і іншае смецце.

Адна дзяжурная змена "вылавіла" за мінулы месяц каля 40 бутэлек. Усяго на помпавай працуе 4 дзяжурныя брыгады. Нескладаныя арыфметычныя дзеянні можа выканаць кожны. "Улоў" звычайна вялікі пасля святаў, выхадных.

Можна набраць торбачку бутэлек, калі пахадзіць і ўздоўж канала. Балазе, цяпер яшчэ цёпла, і некаторыя пасля работы "адпачываюць" менавіта ля вады. У ліпені адпачываючых было, зразумела, больш, гэта цяпер вада для купання ўжо халаднаватая.

Найбольш практычныя (адзінкі) забіраюць пустую тару дадому, некаторыя пакідаюць пад кусцікам. Але навошта кідаць бутэлькі ў ваду? Асабіста я не разумею.

*Надзея ЛІСАВА.*

СВЯТЫ

Работнікі жыллёва–камунальнай гаспадаркі Вілейкі Мікалай Пятроў, Фёдар Цімафеенка, Павел Сялюн на даўгабудзе — доме № 44 па вуліцы 17 Верасня.

Маляры ААТ «Аддзелачнік—198» Тарэса Руткоўская, Наталля Завадская, Яўгенія Жук фарбуюць мэблевы магазін прадпрыемства "Утульнасць".

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

# Вілейцы — 400

Пачатак тэмы на 1—й стар.

**– Ці шмат будзе гасцей і дзе іх размесцяць?**

– Прыедуць дэлегацыі з гарадоў–пабрацімаў Пераяслаўля–Хмяльніцкага (Украіна), Мажайска (Расія), таксама Марыупаля. Прыедуць галандцы, суседзі – маю на ўвазе суседнія раёны. Запрасілі мы былых кіраўнікоў горада.

У тым ліку, **Івана Каратчэню**. Павінны прыехаць нашы знакамітыя землякі: **Уладзімір Слабодчыкаў**, загадчык кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў, **Міхаіл Казінец**, рэктар Акадэміі музыкі. З Мінска чакаем афіцыйных асоб. На жаль, сябры з Германіі на свята не трапяць. Яны прыязджалі ў чэрвені. А на юбілей рыхтуюць віляйчанам гуманітарны груз. Плануем прыняць чалавек 100 з творчых калектываў. Да прыкладу, з Марыупаля прыедуць два ансамблі: песні і бальнага танца. Размяшчаць усіх гасцей будзем у Вілейцы.

**– Задоўга да свята была распрацаваная праграма па добраўпарадкаванні горада. Яна выканана?**

– Не поўнасцю. Добраўпарадкаванне адно з нашых балючых месцаў.

Не хапае сродкаў. Так, заасфальтавалі вуліцы Чапаева, Першамайскую. Навялі парадак з будынкамі ў цэнтры горада. Але шмат чаго і не зрабілі. Ад аб'яднання выканаўчых структур грошай не стала больш.

**– Калі будуць падводзіцца вынікі конкурсу вершаў, песень пра Вілейку?**

– У першы дзень свята, 27 жніўня. Цікава, што ў конкурсе возьмуць удзел не толькі віляйчане, але і госці – расіяне і ўкраінцы. Паглядзім, як "замежнікі" будуць славіць наш горад. Хаця, ў многіх расіян і ўкраінцаў беларускія карані.

**– Чуў, што ў сталіцы размешчаны заказ на выраб манумента, які хутка ўзвядуць у Вілейцы.**

– Гэта не так хутка будзе. Можа, сёлета, а можа, у наступным годзе на скрыжаванні вуліц Першамайскай і 17 Верасня плануем паставіць манумент "Віляйчанка". І гараджане, і госці ў прыватных размовах неаднойчы заўважалі: назвы горада, ракі – жаночага роду. І вымаўляюцца ласкава. Таму агульная думка, што манумент павінен адлюстроўваць жанчыну, віляйчанку.

**– Якія прадпрыемствы найбольш дапамаглі аргкамітэту ў падрыхтоўцы свята?**

– Вілейскі філіял ААБ "Беларусбанк", ААТ "Буддэталі", калектыў жыллёва–камунальнай гаспадаркі, МП "Утульнасць".

**– На святы такога ўзроўню звычайна запрашаюць "зорак" эстрады. Каго ўбачаць віляйчане на ўрачыстасцях?**

– Гэта сакрэт. Няхай для віляйчан будзе прыемная нечаканасць.

**– Вы гаварылі, што капсулу павінны раскрыць праз 100 год, на 500–годдзе Вілейкі. А хто будзе памятаць, што такая капсула існуе? Ці гэта будзе перадавацца з пакалення ў пакаленне?**

– Будзе зроблены дублікат завяшчання. І ён будзе захоўвацца ў музеі. Так што не хвалюйцеся, пра святкаванне 400–годдзя нашыя нашчадкі будуць помніць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ЗАХАПЛЕННІ

# Гуманітарка вырасла пытальнікам



Заўзятая агароднiца, супрацоўнiк маладзечанскай цэнтральнай гарадской бiблiятэкi Ларыса Сысун на сваiм агародзе вырасцiла "пытальнiкi" i "пiсталеты". Такiя незвычайныя формы маюць германскiя агуркi.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

– Апошнія тры гады ў харчкамбінатаўскім магазіне, што ў будынку падатковай інспекцыі, я купляю гуманітарнае насенне, – гаворыць Ларыса, – яно таннейшае за нашае ў 5–6 разоў. І на маіх градах па завулку Вялікасельскім заўсёды добры ўраджай.

На ўчастку Ларысы Сысун, акрамя агуркоў, расце іншая "гуманітарка": радыска, рэпа, рэдзька, буракі, памідоры, баклажаны, цыбуля.

– Нашыя "пытальнікі" і "пісталеты" вельмі смачныя. Акрамя таго, паглядзіш на іх – і адразу пра жыццё думкі набягаюць. А агароднікам магу даць параду. Не звяртайце ўвагу на месяцавы каляндар. Разлічвайце толькі на свой досвед.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ*

АКЦЫІ

# Санаторый «Зорны»...

Пачатак на 1—й стар.



Яны з горада Кралева. У многіх гэтых дзяцей з незабяспечаных сем"яў падчас ваенных дзеянняў і канфліктаў загінулі бацькі, разбураныя дамы. Адна з кіраўнікоў групы, прыкладам, яшчэ ў красавіку страціла мужа, якога забілі невядомыя.



У начальніка санаторыя «Зорны» Генадзя Пустахода клопату гэтымі днямі адчувальна дадалося.

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

# Праблемы застаюцца

*Вілейка святкуе 400—годдзя з першага згадвання аб горадзе. На самой справе, Вілейцы шмат болей год, чым будзе адзначацца на афіцыйным свяце. Пра гэта ўжо нават гісторыкі не спрачаюцца. Віляйчане любяць свой горад, у якім прыгожыя зялёныя вуліцы спускаюцца да парка над Віллёй. Але гаварыць сёння, што Вілейка падыходзіць да апошняга года другога тысячагоддзя без праблем, нельга. І такіх вельмі вострых праблем можна налічыць некалькі.*

**Праблема першая** – экалогія. Некалі начальнікі прынялі рашэнне перакінуць Вілейку на другі бераг Віліі, намыўшы на яго пясок. Пясок панамывалі, горад там не пабудавалі. У выніку Вілейка пазбавілася аднаго з лёгкага, а былая вёска Малюны – пашы для сваіх каровак.

**Праблема другая** – беспрацоўе. Іншыя начальнікі "пасадзілі" ў горадзе прадпрыемства саюзнага падпарадкавання "Зеніт", што прывяло да буйнога інтэнсіўнага росту колькасці насельніцтва. Яно фактычна (чакалі жылля), ды і псіхалагічна (а куды яшчэ пойдзеш?) былі прывязаныя да буйнейшага ў Еўропе (ганарыліся!) завода па вытворчасці фотаапаратуры. Пяць тысяч чалавек варылася ў зенітаўскім катле. Пры тым, што агульная колькасць жыхароў складае трыццаць тысяч. Сёння Вілейка пакутуе ад яўнага і скрытага беспрацоўя. Многія, хто здолеў хоць неяк перыярыентавацца ў гэтай сітуацыі, як гандляры на рынку, што раскінуўся пад манументам Леніну на галоўнай плошчы горада, таксама ледзь зводзяць канцы з канцамі.

**Праблема трэцяя** – гарачая вада. Віляйчане забыліся, калі ў іхніх кранах (акрамя ацяпляльнага сезону), была гарачая вада. Трымальнік гарадской кацельні "Зеніт" ні за што ні пра што не хоча растацца са сваім энергетычным прадпрыемствам. З іншага боку, ці хто захоча яго ўзяць на свой баланс? У "Зеніта" няма сілы забяспечыць гараджан цёплай вадой, але такія сілы і не з"явяцца ў калоса на гліняных нагах, пакуль у яго самога справы добра не пойдуць. Людзі ж, самі таго не ўсвядамляючы, здаецца, змірыліся з такой сітуацыяй. Хаця праблема ад гэтага менш вострай не становіцца.

**Праблема чацвертая** – ... Кожны з жыхароў горада назве праблемы яшчэ і яшчэ... Але ад гэтага яны не вырашацца. Нават з–за той прычыны што на Вілейшчыне нарадзілася жонка цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Яна ж – не жонка бога, якому таксама за Вілейку сэрца не баліць.

А што да святаў, дык віляйчане святкаваць умеюць. І іншых могуць навучыць. Прыязджайце – пабачыце.

*Мікола ГАЙДУК.*

РЭХА СВЯТА

# Смаргонскія пагранічнікі і маладзечанскія чыгуначнікі

МАЛАДЗЕЧНА. Выпадкова трапіла на святочны вечар, прысвечаны Дню чыгуначніка.

Яшчэ пры ўваходзе ў залу чыгуначнага клуба граў духавы аркестр пагранічнікаў. Людзі танцавалі. А глядзельная зала нагадвала пасажыраў вагона. Ролю праваднiка выконваў хлопчык, які хораша спяваў.

Тут ушаноўвалі лепшых працаўнікоў, дарылі ім падарункі, у іх гонар выконваліся песні. З арыгінальнымі нумарамі выступалі ўдзельнікі цыркавога гуртка, спявалі ўдзельнікі народнага хора, танцавалі з народнай студыі.

Трыумфам на святочным вечары стала выступленне ваеннага ансамбля пагранічнікаў са Смаргоні.

Людзей у ансамблі няшмат, але гэта сапраўдныя майстры. Іх рэпертуар складаецца з беларускіх песень. Было сапраўднае яднанне з залай, якая спявала разам з артыстамі.

Сярод апошніх, дарэчы, была толькі адна жанчына. Яна як быццам вяла канцэрт, па заяўках называла лепшых працаўнікоў маладзечанскай чыгуначнай станцыі. У іх гонар выконваліся беларускія песні.

Калі спявае народ, то жыве Беларусь.

*Соф'я ЗАХАРОНАК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Вілейцы сварацца

**г. Вілейка (павет) Віленскай губ.**

26 юня была тут літэратурная вечарынка; чытаў і прэдстаўляў І. Хоронжы с Кракова. Пры канцы прэдстаўленьня паклікалі з тэатру надзіраценя і доктара. Бо як пазьней даведаліся, на вясельлі тутэйшых мешчан у гэты самы вечар некольki хлапцоў паспрэчаліся і ўзяліся за чубы, ды так шчыра, што сына майстра тутэйшай лесапілкі моцна зранілі.

Два таварышы–мешчане зайшлі ў распівочную на Мінско–Дзісенскай вуліцы. Добра натрактаваўшыся, там пайшлі да дому; але па дарозі захацелася ім ешчэ іншаго трактамэнту,– і адзін з іх, вырваўшы кол з плоту, так ім пачаставаў свайго таварыша, што ў таго кінулася горлам кроў. Мала спадзеўкі, каб ён доўга працягнуў.

К–тя.

*Першая Беларуская Газэта з Рысункам "Наша Ніва". №33 ад 16 аўгуста 1909 г.*

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ

# Сказалі і зрабілі

СМАРГОНЬ. На дзень раней, чым намячалася, у кватэрах смаргонцаў з'явілася гарачая вада. Адсутнічала яна, практычна, менш за месяц. Работнікі ВА ЖКГ, як і абяцаў раней яго дырэктар **Браніслаў Стурліс**, нават і пры недахопе фінансаў стрымалі сваё слова.

Да 1 верасня гарачая вада, праўда, будзе падавацца толькі па суботах і нядзелях, але потым – кожны дзень.

*Павел МАКЛЮК.*

*ТРАГЕДЫІ*

# У панядзелак у Вілейцы хавалі Вячаслава Сасонку

ВІЛЕЙКА. У панядзелак віляйчане хавалі пажарнага, 23–гадовага Вячаслава Сасонку. У адрас яго бацькоў з вёскі Карпавічы прыйшоў ліст–падзяка ад вяскоўцаў – 99 подпісаў. Яшчэ ліст падпісалі будаўнікі з Украіны.

29 ліпеня ў Карпавічах ад гульні дзяцей з запалкамі загарэўся хлеў сям'і Андрушкевічаў. Ад агню маглі загарэцца бліжэйшыя дамы. Пажарныя асобнага паста ваенізаванай пажарнай службы вёскі Карпавічы камандзір аддзялення Вячаслаў Сасонка і Міхаіл Мордас разам з вяскоўцамі пажар лакалізавалі. Вячаслаў апынуўся ў вогненным кальцы. Быў дастаўлены ў сталічны апёкавы цэнтр. На жаль, медыкі выратаваць яго не змаглі.

Вяскоўцы напісалі ліст.

**Аддзел інфармацыі.**

"Паважаныя Таццяна Пятроўна, Леанід Міхайлавіч, Аляксей і Наталля. Прабачце нам за нанесенае непапраўнае гора. У гэты цяжкі час мы ўсе разам з вамі. Глыбока смуткуем з прычыны смерці вашага дарагога сына Вячаслава, які за кошт свайго ўласнага жыцця выратаваў нашу вёску. Молім бога за ўпакой яго душы. Няхай гасподзь бог дасць вам сілы перажыць гэтае страшнае гора і зберажэ вас ад усялякіх бедаў у далейшым.

Даруйце нам і нашым неразумным дзецям".

*«РГ»–СТАТЫСТЫКА*

# Хто і колькі мае ў Смаргоні

СМАРГОНЬ. У чэрвені сярэдняя зарплата ў раёне склала 14577,4 тысячы рублёў. Найбольш атрымліваюць работнікі крэдытавання і дзяржстраху – 37906,1 тысячы. Найменш – 11124,6 тыс. – работнікі сельскай гаспадаркі.

Нядрэнныя заробкі цяпер у будаўнікоў, яны складаюць 21571,2 тысячы рублёў. Але нават нягледзячы на гэта, людзі ў будаўніцтва ідуць неахвотна, цяпер толькі мясцовы трэст №41 ды МПМК-165 гатовы прыняць на работу да 300 кваліфікаваных будаўнікоў. Але тыя лічаць за лепшае працаваць у Падмаскоўі і далей, ажно да Урала. Там можна зарабіць нашмат больш.

**Павел МАКЛЮК.**

# Тавары адусюль

СМАРГОНЬ. За 7 месяцаў гандлёвыя прадпрыемствы горада і раёна прадалі насельніцтву прадуктаў і прамысловых тавараў на суму звыш за 2 трыльёны рублёў.

Але толькі на 70% з Ашмянскім мясакамбінатам і на 10 са Смаргонскай птушкафабрыкай удалося ажыццявіць выбарку прадуктаў. Прычына адна – хранічны недахоп сыравіны на абодвух мерапрыемствах. Таму райвыканком арыентуе гандаль на закупку свініны па цэнах дамоўленасці ад насельніцтва і выпуск на ўласных вытворчых плошчах мясных паўфабрыкатаў.

**Павел МАКЛЮК.**

# Пажывем, але не пакурым

ВІЛЕЙКА–МІНСК. Ва ўсіх прыватных гандлёвых кропках, якія гандлююць тытунёвымі вырабамі, зніклі імпартныя цыгарэты. Кантралюючыя органы патрабуюць сертыфікат, а дзе яго ўзяць, калі большасць цыгарэт закупляецца за налічку ў аптовых ларках, што на Камароўцы? А там сертыфікаты не даюць. Сертыфікат можна набыць, закупляючы цыгарэты на аптовай фірме, але ж цана на такія цыгарэты большая.

Яшчэ адзін канал пастаўкі цыгарэт – гэта кантрабанда. На НТВ паказалі сюжэт: пад Масквой накрылі падпольны завод, дзе выраблялі Marlboro, на пачак якога наклейвалі акцызную марку. Тут ужо не да сертыфіката.

Ходзяць чуткі, што з 1 верасня гандляваць імпартнымі цыгарэтамі будуць мець права толькі дзяржаўныя гандлёвыя пункты. Гэта значыць (без канкурэнцыі), цана яшчэ вырасце. Да прыкладу, у Мінску, у аптовым ларку, цана на Marlboro – 380000 за пачак, у прыватным ларку ў Вілейцы – каля 500000, у дзяржаўным магазіне – каля 600000.

Пажывем – убачым, вось толькі ці будзем курыць?

**Ігар КІЦІКАЎ.**

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 4.08 | 11.08 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 510 | 525 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | – | 1333 |
| Сасіскі | 1 кг | 780 | 780 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | 320 |
| Рыс | 1 кг | – | 280 |
| Цукар | 1 кг | 145 | 145 |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 470 | 460 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150 | 180 |
| Маянэз | 250 г | 78 | 80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | 470 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 145 | 150 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 135 | 140 |
| Лімоны | 1кг | 480 | 510 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | – | – |
| Масла | 1 кг | – | – |
| Тварог | 1 кг | 120 | 120 |
| Малако | 1,5 л | 70 | 70 |
| Бульба маладая | 1 кг | 60 | 70–80 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 190 | 190 |

яблык «белы наліў» ......... 1 кг ............... 35 тыс. руб.
кавун ......................... 1кг ............... 100 тыс. руб.
морква ........................ пучок ............ 70 тыс. руб.
агуркі ......................... 1 кг ............... 25–40 тыс. руб.
памідоры ..................... 1 кг ............... 140 тыс. руб.

*ЖЫЦЦЁ НАШАЕ*

# Як жывуць Валодзькі?

*МАЛАДЗЕЧНА. Пасёлак Валодзькі пабудаваны на месцы былой цагельні, у пяці кіламетрах ад мястэчка Радашковічы. Недалёка ад пасёлка (2–3 км) — вёска Валодзькі. Як праехаць у вёску — указальнік ёсць, а вось кірунак пасёлка паказвае зусім нядаўна пастаўленая бляшаная шыльдачка. Ізмайстраваная яна тут толькі пасля некалькіх выпадкаў—здарэнняў.*

Аднаго разу "хуткая" з Радашковічаў 4 гадзіны ехала да пасёлка. А ў сакавіку у жыхаркі В. а 7–й гадзіне вечара загарэўся хлеў. Выклікалі пажарных з Радашковічаў (на ўвесь пасёлак, дарэчы, 2 тэлефоны – адзін службовы, другі дамашні). Апошнія звязаліся па сувязі з калегамі з Аляхновічаў і Чысці. Аляхновіцкая і радашкоўская машыны не прымусілі сябе чакаць – іхнія вадзіцелі ведаюць пра месцазнаходжанне пасёлка. А вось гаротныя "валодзькашукальнікі" з Чысці прыехалі пад канец пажару, так бы мовіць, на разбор бярвенняў. І то ім "пашанцавала" – сустрэлі жыхара пасёлка, што ішоў пасля работы з Радашковічаў пешшу. Ён і стаў для іх Іванам Сусаніным.

вёска Валодзькі
Путнікі
пасёлак Валодзькі
1,5 км
указальнік
Дарога на Аляхновічы, Валожын
на Мінск
на Маладзечна
мястэчка Радашковічы

*Схема для Валодзькашукальнікаў*

У Валодзьках жыве 27 сем'яў, дарослыя з іх працуюць на ААТ "Белмастацкераміка". Летам яшчэ сяк–так. А зімой і ўвосень па дарозе ў 1,5 км немагчыма праехаць – хіба што на танку. Аўтобус з Радашковічў забірае людзей на работу, дзяцей у школу па рабочых днях. Адпаведна і пасля работы (а 5–й вечара) забірае.

У каго зменны графік – тым рэгулярна даводзіцца гуляць на свежым паветры – туды і назад 10 км. На "Кераміцы" 3 змены, вось і атрымліваецца: каб прыйсці да 6 раніцы на работу, трэба у 4 падымацца, у 4.30 выйсці з дому. Дзецям, якія вучацца ў II змену, бацькі нанялі машыну. Мільён на гэтую справу выдзеліла "Кераміка", астатнія даплачваюць бацькі. Аб якіх гуртках, секцыях можа ісці размова?

Мінулая зіма прынесла шмат снегу. Калі тыя паўтара кіламетра замяло, жыхары пасёлка звярнуліся ў ЖКГ з просьбай пачысціць дарогу. Атрымалі ветлівую адмову: яна належыць (да абслугоўвання, зразумела) "Белмастацкераміцы". На прадпрыемстве, у сваю чаргу, паведамілі, што дарога не належыць і ім. Атрымалася "нічыйная зямля". Вядома, жыхары Валодзькаў скінуліся, на сабраныя грошы нанялі трактар і пачысцілі дарогу.

У пасёлак Валодзькі людзей засялялі часова – тых, хто ўладкоўваўся на работу ў ААТ "Белмастацкераміка". Абяцалі з часам добраўпарадкаванае жыллё. Некаторым і давалі, але тыя чамусьці адразу гублялі інтарэс да «Кераміхі». У лепшым выпадку пераходзілі працаваць у іншае месца, распаўсюджанай з"явай стала прыватызацыя атрыманых кватэр з наступным продажам.

На чаргу на кааператыўную кватэру гарпасялковы савет не ставіць. Гэтая адмова матывусцца тым, што Валодзькі адносяцца да сельсавета. У апошняга на будаўніцтва грошай няма. Тады жыхары зноў звярнуліся ў гарсавет – адказ ранейшы: патрэбная радашкоўская прапіска.

Вось так і жывуць, у бараках. У век камп'ютэраў і Інтэрнета.

Смецце жыхары Валодзькаў выкідваюць у кантэйнеры, якія стаяць на вуліцах. Смецця столькі, што праз верх валіцца. Не таму, што жыхары штодня генеральнае прыбіранне ладзяць, а таму, што смецце не забіраюць сістэматычна. Прыехала машына: адну скрыню разгрузілі, пачысцілі, астатнія так і засталіся стаяць перапоўненыя. Была справа, што ў перапынках рабочыя добра выпілі, пасля чаго, магчыма, і вырашылі: нашто ім чысціць іншыя скрыні? Колькі тыдняў таму, праўда, усё, нарэшце, папрыбіралі, нават сфатаграфаваць не было чаго.

*Указальнік на Валодзькі. Адзін раз аўтары яго мінулі — не заўважылі. Другі раз шукалі мэтанакіравана (мусіць жа быць!), таму і знайшлі.*

Раней, гады з тры таму, у Валодзькі прыязджала аўталаўка. Цяпер жыхары прывозяць хлеб з Радашковічаў.

Паштальёна няма, таму свае лісты пасялкоўцы атрымліваюць праз вёску Валодзькі. Весці нейкую размову пра газеты – занятак недарэчны.

**Надзея ЛІСАВА.**

*Адзін з дамоў пасёлка з–за сырасці дзеці тут хварэюць вельмі часта. Быў выпадак, калі прыбіральня ля аднаго з такіх дамоў перавярнулася. І смех, і грэх: мужчына, што на бяду завітаў туды, ледзь выбраўся.*

*Усё, што засталося ад хлява бабы Марыі. Згарэў, у тым ліку, і новенькі веласіпед — падарунак унуку.*

ФОТА МІКОЛЫ ЛІННІКА.

# Каментарыі да матэрыялу даюць службовыя асобы

Дырэктар маладзечанскага РПП ЖКГ **Аляксандр Рыжоў:**

ЖКГ абслугоўвае толькі тыя аб'екты, якія знаходзяцца на іх балансе. Дарога (1,5 км) знаходзіцца на балансе сельсавета, які, у сваю чаргу, павінен заключыць дагавор з ДРБУ.

У пасёлку ўстаноўлена 2 новыя металічныя кантэйнеры К-6 (кожны ёмістасцю 6 куб. м), коштам па 180 мільёнаў.

Жыхары пасёлка абралі старасту, які, па меры запаўнення кантэйнера (не больш чым на 2/3), тэлефануе, мы высылаем машыну.

Добраўпарадкаванне жылля ў многім залежыць ад саміх жыхароў. Сустракаюцца ў пасёлку запушчаныя двары, дамы.

"Негаспадарскія" адносіны матывуюць тым, што ўсё адно яны тут жывуць часова. Лічаць, што мы ім абавязаныя рабіць рамонт – самы просты.

Старшыня сельскага савета **Галіна Тапаркова**:

Дарогі сельсавет не абслугоўвае. Гэтыя 1,5 км не стаяць у нас на балансе: яны толькі знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савета, інакш нам бы выдзяляліся грошы. Падымалася пытанне пра ўзяцце (у 1998 годзе) ДРБУ гэтай дарогі. Пакуль яно не вырашанае. У тым годзе пры дапамозе баластнага кар'ера "Радашковічы" часткова рабілі падсыпку ў выбоіны.

На тэрыторыі сельсавета ёсць дарогі і ў горшым стане (Путнікі). Асфальтаваць няма магчымасці – пасёлак неперспектыўны, ды і грошай няма (пакласці 1 кв. м асфальту каштуе 2 мільёны рублёў).

У "Аўталаўцы" няма неабходнасці: у пасёлку пражывае ўсяго 4 пенсіянеры; астатнія жыхары – працаздольныя, працуюць на ААТ "Белмастацкераміка" у Радашковічах, дзе маюць магчымасць купіць неабходныя прадукты. Бліжэйшы магазін (прыкладна, 1 км) – у вёсцы Валодзькі. Аўталаўкі ездзяць раз на тыдзень па 8 вёсках, у якіх палова жыхароў – пенсіянеры, а да бліжэйшых магазінаў – 3-4 кіламетры.

Ставім на чаргу па паляпшэнні жыллёвых умоў усіх, хто да нас звяртаецца. Бягучы рамонт жылля павінны рабіць самі жыхары. Тым больш, што яны працаздольныя.

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча
з п. Беразінскае Маладзечанскага р-на



**Па гарызанталях:** 1. Фаза народнага аднаўлення. 4. Рыба сям'і кефаляў. 6. Прылада для вымярэння даўжыні крывых ліній на картах. 9. Верны, адданы балельшчык. 11. Шматдулавая зброя XVI–XVII ст. 13. Прамысловая рыба атрада акунёвых. 16. Землярыйная машына для пабудовы каналаў. 19. Згустак крыві на месцы паранення. 20. Хімічны элемент, атрыманы штучна. 21. Пара года. 22. Хімічны элемент, галаген. 23. Зброя Сымона–музыкі ў паэме Я. Купалы. 25. Сродак упакоўкі кількі. 27. Васковае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў парфумерыі для замацавання паху духоў. 28. Настаўленне. 30. Транспартны сродак для перавозкі пасажыраў. 32. Невялікая частка паперы, запэцканая чарнілам. 34. Тэлескоп для фатаграфавання Сонца. 35. Погляды, асновы светапогляду. 36. Жаночае імя.

**Па вертыкалях:** 2. Кветкі, сабраныя разам. 3. Прыбытак. 4. Асвятляльны прыбор. 5 . Контур прадмета. 7. Від гравюры. 8. Ансамбль з 8 выканаўцаў. 10. Прылада, якая забяспечвае бяспеку чужых людзей ад сабакі. 12. Царыца багоў у грэчаскай міфалогіі. 14. Адлегласць ад старту да фінішу. 15. Адступленне ў пачатковым радку тэксту. 16. Жывёла жаночага роду. 17. Парнакапытная жывёла ў Грэцыі. 18. Ядавітая вужака сям'і аспідаў. 23. Агульная назва літоўскіх народных песняў. 24. Дошка для вылічэння ў старажытнай Грэцыі. 26. Традыцыйныя дзеянні ў жыцці чалавечага калектыву. 29. Пацямненне скуры пад уздзеяннем сонечных прамянёў. 31. Дрэва роду таполяў. 32. Літара грэчаскага алвавіта. 33. Настрой твора.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 31.*

**Па гарызанталях:** 1. Метал. 4. Фразеалогія. 6. Метад. 8. Зеў. 9. Бланк. 11. Газон. 14. Тыран. 16. Атракцыён. 18. Траса. 19. Радца. 20. Нота. 21. Баржа. 23. Рытм. 26. Аркуш. 27. Абрус. 29. Класік. 30. Клінок. 31. Адсек. 33. Робат. 34. Трон. 35. Нарад. 36. Ёлка. 37. Кроза. 39. Уціск. 41. Ёмістасць. 42. Ярыца. 44. Абрам. 46. Абуза. 47. Ода. 48. Агент. 51. Амартызацыя.

**Па вертыкалях:** 1. Муза. 2. Трафей. 3. Лаос. 4. Фатон. 5. Яхант. 6. Мазут. 7. Дыета. 9. Бісер. 10. Карта. 11. Гастраномія. 12. Камаш. 13. Сцюжа. 15. Нацыяналізм. 16. Асяроддзе. 17. Наяўнасць. 20. Накат. 21. Бубен. 22. Абход. 24. Мікра... 25. Мір. 28. Юля. 32. Кассё. 33. Радар. 37. Крыга. 38. Амега. 39. Уцеха. 40. Карат. 43. Ануча. 44. Алеся. 45. Адрына. 49. Арфа. 50. Загс.

СІТУАЦЫЯ

## Стой хоць цэлыя суткі

Цяпер на рынку, што на пл. Леніна, працуе стаянка (прыкладна, на 100 машын). Здаецца, заплаціў 50000 – і стой хоць цэлыя суткі, тым больш, што па перыметры плошчы стаянка забароненая. Але не так усё проста. Ставяць на пятачках насупраць пошты, каля ўніверсама "Вілія" і мэблевага магазіна, на суседніх вуліцах. Вось я і запытаў у трох вадзіцеляў:

– Чаму ставіце машыну за некалькі соцень метраў ад рынку, а потым ідзяце пешшу, шкадуеце 50000?

Валодзя:

– Я з вёскі. Жонка адправіла за мяшком цукру, а потым можна і піва папіць, вось 50000 і спатрэбяцца.

Не назваўся:

– Для мяне 50000 – не грошы. Тут стаўлю прынцыпова. На гэтай стаянцы ні разметкі, ні агароджы (па перыметры), ходзіць, хто хоча. Я заплаціў бы і 100000 за ахову, а не за той кавалачак зямлі, які мой дзед крывёй паліваў.

Ігар:

– Я з дачкой, на гэтыя грошы куплю ёй марожанае.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Халодная частка цела

Сябра з Мінска расказаў такую забаўную гісторыю. У перапоўненым тралейбусе ехала маладая жанчына з дачушкай. Як ні ўшчувала маці свавольніцу, тая ўголас выказвала свае думкі, спакойна не стаяла. Маці прыгразіла, што дома не пашкадуе яе мяккага месца.

Дзяўчынка адрэагавала:

– Чула, як тата казаў, што ў цябе халодная попа.

Уздрыгануўся тралейбус ад пачутага. Маці дзяўчынкі пачырванела, схапіла малую – і да выхаду, хаця, мо, ехаць яшчэ далёка.

Мужчыны, не гаварыце пры дзецях пра тэмпературу і ўласцівасці жаночага цела!

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Рана падымацца заўтра

Аднаго разу выпівалі мы з сябрамі на моры з прычыны нараджэння ў знаёмых дзіцяці. Сабралася шмат людзей, так што знаёміцца давялося «па ходзе сустрэчы».

Ужо ў прыцемках – а мы ўжо «цёпленькія і побач стаіць літровая бутэлька гарэлкі – пытаюся ў незнаёмага мужыка, што ляжыць на пяску побач са мною:

– Ты сто грамаў пацягнеш?

– Ды не, мне заўтра а пятай раніцы падымацца!

– Нічога, прачнешся!

– Добра, налівай!

Прайшло пяць хвілін.

– Сто грамаў?

– Не, мне заўтра а пятай раніцы падымацца, ехаць у аэрапорт!

– Ды якія праблемы? Прачнешся!

– Добра, налівай!

Яшчэ праз пяць хвілін.

– Па сто грамаў?

– Не, мне заўтра а пятай раніцы падымацца, ехаць у аэрапорт, ляцець у Ерэван!

– Дастаў ты! Прачнешся! Зловіш машыну, даездзеш у аэрапорт ды праспішся, пакуль будзеш у самалёце ляцець.

– Ды не, ты не зразумеў! Мне заўтра а пятай раніцы падымацца, ехаць у аэрапорт, потым весці самалёт да Ерэвана. Лётчык я...

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ

## Артрыт

*Пачатак у № 31.*

Паніжаная кіслотнасць мае тэндэнцыю ўзмацняцца з узростам. Дапаможа тут 1 мал. лыжка яблычнага воцату ў невялікай колькасці цёплай вады – піць маленькімі глыткамі перад ежай. Гэта кампенсуе любы недахоп салянай кіслаты, а 1 хваёвая таблетка з кожным прыёмам кампенсуе недахоп аскарбінавай кіслаты. Яна забяспечыць арганізм вітамінам С, без якога кальцый не можа быць поўнасцю засвоены арганізмам. Па 1 таблетцы вітаміну В12, па 3 капсулы вітаміну А і па 3 – вітаміну Е таксама варта прымаць штодня.

Што тычыцца самой ежы, то варта пазбягаць усяго мяснога, пшанічнага хлеба і мукі, прадуктаў з белага цукру (варэння, цукерак, шакаладу), моцнай гарбаты і кавы, алкагольных напіткаў, сталовой солі і прыпраў. Замест іх трэба ўжываць тварог, тварожны сыр, яйкі, соевае малако, Кэзілан (малочны бялок у порошку), ёгурт з малака казы, харчовыя дрожджы (піўныя дрожджы ў парашку); арэхі і ўсемагчымае насенне – сланечнік, кунжут, ільняное семя, проса, насенне грэчкі, сасновыя зёрны, ячмень, сачавіцу і сачыўную муку, соевыя бабы і соевую муку; мёд, фінікі, гарбату з каранёў лопуха, з крапівы, каву з дзьмухаўцоў, яблычны сок (лепш дамашняга прыгатавання), парашок марской капусты, часночны парашок, сельдэрэйны парашок. Можна ўключаць у рацыён пшанічныя зародкі, але не муку – яе варта замяніць аржаным хлебам ці хлебам з мукі, што не ўтрымлівае клейкавіну (з пшанічнага крухмалу).

Лепш, каб людзі, што пакутуюць на артрыт, прытрымліваліся дыеты, якая б не ўтрымлівала клейкавіну. Таму варта выключыць хлеб і іншыя прадукты з пшанічнай мукі, бо пшаніца якраз утрымлівае шмат клейкавіны.

Штодня перад ежай варта выпіваць па паўкубачка сырога агародніннага соку – для яго прыгатавання можна выкарыстаць бульбу, моркву, сельдэрэй, белакачанную капусту і - па магчымасці - салату, пятрушку, крапіву і лісце дзьмухаўца.

*Працяг будзе.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Пенсіянеры засвоілі крымінальны бізнес

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні група незаконнага абароту наркотыкаў пры раённым аддзеле ўнутраных спраў выехала ў Валожынскім накірунку. У вёсцы Палачаны сустрэлі старых знаёмых, двух пенсіянераў. Як і летась, яны вырошчвалі мак.

– Ніхто яго не садзіў, сам вырас, – гавораць дзяды.

– Вырошчваць мак і каноплі забаронена законам, – гаворыць старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Міхаіл Глінскі, – сёлета намі выяўлена і знішчана больш за 40 такіх пасеваў. Найбольш "пашкоджаны" гэтай сыравінай Заскавіцкі накірунак, умоўны раён гарпасёлка Бераінскае.

– Вырошчваць той жа мак – традыцыя. Старыя ўжываюць яго на памінкі, пякуць з ім булкі.

Летась восенню мы затрымалі наркаманаў. Павезлі яны нас у вёску Готкавічы да 85–гадовай бабулі. Я быў без формы, зайшоў у хату і пытаюся:

– Мак ёсць?

– Ёсць, сынок, – гаворыць старая, – макавай саломкі вядро змяльчыла. Калі мала, яшчэ нарыхтую.

А за вырошчванне і збыт законам прадугледжана крымінальная адказнасць – да 15 год пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

– Цэны на макавую саломку не змяніліся ў сувязі з інфляцыяй?

– Шклянка саломкі каштуе, як і раней, 5–7 долараў. Гэта ў горадзе. На вёсцы яна значна таннейшая.

– Можа, таму нарыхтоўшчыкі і едуць на сяло?

– Летась злавілі нарыхтоўшчыка са Смаленска. Сёлета пападаюцца толькі мясцовыя.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ГАРАСКОП 16 – 22 ЖНІЎНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Для актыўных Авенаў перыяд будзе азнаменаваны масай знаёмстваў, дзелавых прапаноў і фінансавых паступленняў. Авены-філосафы – за бортам, не іх час.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
14-15 вас будзе заклапочваць толькі адна праблема – сардэчная. Дазвольце вырвацца фантазіям і поспех у супрацьлеглага полу забяспечаны.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Вам хочацца палёту, а даводзіцца спатыкацца аб мноства жыццёвых перашкод Эмоцыі няўстойлівыя, пачуцці пераменлівыя.

**РАК (22.06–23.07)**
Перыяд насычаны работай і кароткімі паездкамі. Прымайце любыя прапановы, у тым ліку, забаўляльнага характару: усе яны будуць мець значэнне ў будучым.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
.Заваяваць прыхільнасць патрэбных людзей можна будзе, толькі сцішыўшы запал і агрэсіўнасць. Магчымая сварка з блізкімі, вяртанне даўгоў.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Без працы вам цяжка ўявіць сваё жыццё. З вялікім поспехам можна будзе вырашыць пытанні, якія тычацца крэдытаў, страховак, падаткаў.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Вы павінны быць напагатове ва ўсім, што тычыцца бізнесу. Літаральна вынырне з небыцця даўно забытая праблема. Галаўнога болю дадасць запушчаная (з–за кахання) сітуацыя на рабоце.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Не прывязіце з камандзіроўкі якую-небудзь хваробу! Будзьце асцярожныя за рулём 19 жніўня. Намаганні на рабоце пачынаюць прыносіць плён.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
16 жніўня кардынальна паменяюцца абставіны асабістага жыцця. І ад вас нічога не будзе залежаць, усё пройдзе без вашага ўдзелу і нават жадання. Спадзявайцеся на лёс.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
З карабля - на баль! А баль не самы прыемны. Сітуацыя, якая ўзнікла ў канцы ліпеня, працягвае негатыўна развівацца. На рабоце магчымы буйны канфлікт.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Уменне выбраць самую звілістую сцяжынку з усіх магчымых праявіцца з найбольшай сілай. Вы гатовыя перахітрыць самога сябе, але гэта толькі перашкаджае справе.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Лепш нічога не планаваць і не меняць, любыя праекты бліжэйшага тыдня не змогуць ажыццявіцца, толькі згубіце час. Займіцеся асабістымі справамі або дзецьмі.

ПРЫРОДА І МЫ

## 11 жніўня жыхары Беларусі мелі магчымасць назіраць частковае сонечнае зацьменне

Паверхня свяціла, закрытая Месяцам у максімальнай фазе, вар'іравалася ад 71 (у паўночна-усходніх раёнах рэспублікі) да 86 працэнтаў (у паўднёва-заходніх). Асвечанасць паверхні зямлі ў гэты час была супастаўная з асвечанасцю пры ранніх прыцемках.

Як паведамілі БелаПАН у беларускім Гідраметцэнтры, сачыць за даволі рэдкай прыроднай з'явай маглі жыхары заходніх і цэнтральных абласцей, дзе пасля праходжання ноччу і раніцай атмасфернага фронту неба праяснілася. Адначасова ва ўсходніх абласцях было пахмурна, месцамі ішлі дажджы.

Паводле інфармацыі з Міністэрства надзвычайных сітуацый, ніякіх сур'ёзных здарэнняў у перыяд зацьмення не адбылося. Паводле слоў урачоў, у мінскай бальніцы хутай медыцынскай дапамогі дзень сонечнага зацьмення нічым не адрозніваўся ад папярэдніх па колькасці паступіўшых пацыентаў.

Поўнае сонечнае зацьменне, якое стала апошнім у гэтым тысячагоддзі, маглі назіраць жыхары многіх еўрапейскіх і азіяцкіх краін: Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Турцыі, Ірака, Ірана, Індыі і іншых.

*Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.*

